


DEATH OF THE FAMILY

# BATMAN

15 | $3.99 US

SCOTT SNYDER
GREG CAPULLO
JONATHAN GLAPION

THE NEW 52!



Capullo '12 +fco

BY COMICS

БЭТМЭН #15 (2011)
ПЕРАКЛАД І АФАРМЛЕННЕ:
COMICSBY




# DEATH OF THE FAMILY

# BATMAN

**15** | $3.99 US

SCOTT
**SNYDER**
GREG
**CAPULLO**
JONATHAN
**GLAPION**

THE NEW 52!

Capullo 12
+fco

DIRECT SALES







RATED T TEEN

FEB 2013



ЗІРНІ Ў ЯГО ВОЧЫ І СКАЖЫ САБЕ, ШТО ЁН ТОЛЬКІ ЧАЛАВЕК.

СКАЖЫ САБЕ, ШТО ЁН НЕ МОЖА ВЕДАЦЬ ТАГО, ШТО, ЯК ЁН КАЖА, ВЕДАЕ. ЁН НЕ МОЖА ВЕДАЦЬ ПРА ТВАЕ СТРАХІ. АЛЕ Ў ЯГО **АЛЬФРЭД.** У ЯГО ТВОЙ САБАР. І ЯГО ВОЧЫ...

...ТЫ ДАСЛЕДАВАЎ ЧАЛАВЕКАЕ ВОКА. ЁСЦЬ ШЭСЦЬ РУХАЎ ВОКА, ЯКІЯ ПАКАЗВАЮЦЬ НА МАТЫЎ, КОЖНАГА ПА ПЯТНАЦЦАЦЬ ВАРЫЯНТАЎ.



ВА ЎСІХ АСТАТНІХ, З КІМ ТЫ СУТЫКАЕШСЯ – НАВАТ У САМЫХ РАЗЛЮТАВАНЫХ ЗЛОДЗЕЯЎ – ЗРЭНКІ ЗВУЖАЮЦЦА ЦІ ПАШЫРАЮЦЦА Ў ЗАЛЕЖНАСЦІ АД ПАЧУЦЦЯЎ.

ШЧАСЦЕ, СМЕХ, ХВАЛЯВАННЕ. ЗРЭНКІ **ПАШЫРАЮЦЦА.**

СТРАХ, ЗЛОСЦЬ, НЯНАВІСЦЬ. ЗРЭНКІ **ЗВУЖАЮЦЦА**

АЛЕ НЕ Ў ЯГО. ЯГО ЗРЭНКІ ЗАСТАЮЦЦА **НЕПАХІСНЫМІ**, ДРОБНЫЯ ЧОРНЫЯ КРОПКІ, ВОЧЫ ТАГО, ХТО НЕНАВІДЗІЦЬ УСІХ І ЎСЯ.

ВОЧЫ, ЯКІЯ НЕ ЎПУШЧАЮЦЬ СВЯТЛО, ЯКІЯ ГЛЯДЗЯЦЬ СКРОЗЬ ЦЕМРУ, УЗІРАЮЦЦА Ў ЦЯБЕ, КОЖНАЯ ЗРЭНКА – ДРОБНАЯ ЧОРНАЯ ЖАМЧУЖЫНКА, ЗАФІКСАВАНАЯ Ў ПРАСТОРЫ.

КУЛЯ, ЯКАЯ Ў ЦЯБЕ ЛЯЦІЦЬ. ВОЧЫ, ЯКІЯ КАЖУЦЬ, ШТО ЁН БОЛЬШ, ЧЫМ ЧАЛАВЕК, ВОЧЫ, ЯКІЯ КАЖУЦЬ, ШТО ЁН **ВЕДАЕ ЦЯБЕ.**

НЕ... ТЫ ВЕДАЕШ, ШТО ЁН З СЯБЕ ЎЯЎЛЯЕ. СКАЖЫ САБЕ ПРАЎДУ. ЁН ТОЬКІ ЧАЛАВЕК, ЯКІ ЎПАЎ У БОЧКУ З ХІМІЧНЫМ СМЕЦЦЕМ. ЁН ТОЛЬКІ ЧАЛАВЕК...

...ЯК І ТЫ, З КОСТАК, ЦЕЛА І КРЫВІ.

...ПТУШАНЯТКІ І КАЖАНЧЫКІ. І МЕНШ, ЧЫМ ПРАЗ ТРЫ ДНІ, ВАС СПАСЦІГНЕ СМЕРЦЬ, **СМЕРЦЬ, СМЕРЦЬ,** АД РУК БЭТМЭНА!

ГЭТА ТАК, БЭТССС! **Я ВЕДАЮ, ХТО ТЫ** ПАД ГЭТАЙ МАЛЕНЬКАЙ МАСКАЙ! І БОЛЬШ ТАГО, УСЕ ВЫ, ХТО НАС ЧУЕ...

ТЫ **НІЧОГА НЯ ВЕДАЕШ,** ДЖОКЕР.

ТЫ НІХТО – ТЫ ТОЛЬКІ **ГІДКІ ВЫБЛЯДАК!**

ДОБРЫ НАСТРОЙ, МІЛЫ! Я ТААAК ЛЮБЛЮ, КАЛІ ТЫ ПАГРУБІЯНЦКУ КАЖАШ...

СПЫНІСЯ, ДЗЕ СТАІШ!


ПАЎТАРАЮ, СТОЙ, ДЗЕ СТАІШ!
ПАСЛУХАЙ МЯНЕ, БУЛЛАК! УБЯРЫ СВАІХ ЛЮДЗЕЙ АДСЮЛЬ! ЗАРАЗ ЖА!
НІКОЛІ!
ГАРАЖ ДЖО

НУ І НУ! КАВАЛЕРЫЯ!
МЕНАВІТА ТАК, ВЫРАДАК! І ПРАМА ЗАРАЗ ТЫ СТАІШ У КОЛЕ СМЕРЦІ!

БО НА ЦЯБЕ НАКІРАВАНА БОЛЬШ ЗА 50 ПРЫЦЭЛАЎ!
ООО! ХАРВІ? ХТО ГЭТА Ў НАС ТАКІ ДАРОСЛЫ?
ПРОСТА ДАЙ МНЕ НАГОДУ. УСЯГО АДНУ НАГОДУ! МАЛЮ БОГА, ТЫ ЯЕ ДАСІ.

ХАХАХА! ГЭЙ, ХАРВ... АДНО ПЫТАННЕ! ДЗЕ ТЫ БЫЎ У ТОЙ ДЗЕНЬ, КАЛІ Я СКРУЧАЎ ШЫІ ТВАІХ СЯБРОЎ? Я ЦЯБЕ ШУКАЎ!

НЕ МОГ ЖА ТЫ БЫЦЬ ЗА КУТАМ, У ТОЙ СТАРОЙ КАРЧМЕ ЗА ПОРНАКІНАТЭАТРАМ? У «ПАДВОДНАЙ ПЛЫНІ»?
АДЦЯГВАЎСЯ? ТОЛЬКІ НЕ КАЖЫ, ШТО ГЭТА НЕ ТАК, ХАРВ! ТОЛЬКІ НЕ КАЖЫ, ШТО ТЫ ЗНОЎ У ЗАКІДОНАХ! СКАЖЫ, ШТО ГЭТА НЕ ТАК!
...

ЯКІЯ БУДУЦЬ ЗАГАДЫ, ЛЕЙТЫНАНТ БУЛОК?

ПАКІНЬ ІХ, ДЖОКЕР! ГЭТА ПАМІЖ ТАБОЙ І МНОЙ.
ЧЫТАЕШ МАЕ ДУМКІ! ЦІ НЕ НАДЫШОЎ ЧАС НАМ АПУСЦІЦЬ ЗАСЛОНУ? ПАВЕСІЦЬ «ЗАНЯТА» НА ДЗВЕРЫ, ХІ ХІ!

ПАДСМАЖЦЕ ІХ, ХЛОПЦЫ!

НЕ!


ШТО?!
БЕРАЖЫСЯ! БЕРАЖЫСЯ!


ЛЮДЗІ! ДЖОКЕРА НА ДРЭВАХ! ПАЎТАРАЮ! НА...


АЙЙЙЙ!


ХХРРРААА!


ГЛЯДЗІ, КУДЫ ІДЗЕШ, БЭТССС!
Э... РАБЯТЫ?! ПАТРЭБНА НЕВЯЛІКАЯ ДА-ПАМОГА!


ВОСЬ, ШТО Я КЛІЧУ...

...ШТО?!




УСЁ СКОНЧАНА, ДЖОКЕР.
СКАЖЫ МНЕ, ДЗЕ **ПЕНІВОРТ**, І Я ТОЛЬКІ СКАЛЕЧУ ЦЯБЕ... АЛЕ **МОЦНА**.
СКАЛЕЧЫШ МЯНЕ, АЛЕ БЭТС, ПАСЛЯ ЎСЯГО, ШТО Я **ЗРАБІЎ** ДЛЯ ЦЯБЕ ЗА АПОШНІЯ...


ПРЫКРЫЙ ЗЯПУ!


ДЗЕ АЛЬФРЭД ПЕНІВОРТ?! КАЖЫ!


ЁН ДАЛЁКА, БЭТС! ВЕЛЬМІ ДАЛЁКА, ГЭТА ЧАСТКА АСАБЛІВАГА АБЕДА ДЛЯ НАС! СВЯТА ДЛЯ ЦЯБЕ, МЯНЕ І ТВАЁЙ МАЛЕНЬКАЙ СЯМ'І!
ТЫ СКАЖАШ МНЕ ДЗЯКУЙ, КАЛІ ЎБАЧЫШ ГЭТА, БЭТС! ВОСЬ ПАБАЧЫШ! МАГЧЫМА, НАВАТ ПАЦАЛУЕШ МНЕ РУКУ!
ЯК Я ТОЛЬКІ ШТО ПАЦАЛАВАЎ ТВАЮ, МОЙ СПАДАР, ХІ ХІ!


ТАКСІН... НЕ...


ТАК, ПРЫЯЦЕЛЬ. МОЙ ПАЦАЛУЙ ЗАЧАРОЎВАЕ, БАЧЫШ? СПЫНЯЕ Ў РУХУ! ГЭТА ТАМУ, ШТО ЁН НАПОЎНЕНЫ КАХАННЕМ!


ДА ТАГО Ж, Я НІЯК НЕ МОГ ДАЗВОЛІЦЬ ТАБЕ САПСАВАЦЬ СВЯТА, ЯКОЕ АРГАНІЗАВАЎ ДЛЯ ЦЯБЕ. ТОЛЬКІ НЕ ПАСЛЯ ЎСЯГО ЦЯЖКАГА ТРУДА, ЯКІ Я Ў ЯГО ЎКЛАЎ!
КОЛЬКІ СЛЁЗ І КРЫВІ ПРАЛІТА, КАБ ГЭТА ЗДАРЫЛАСЯ... ПРАЛІТА ІНШЫМІ, КАНЕШНЕ, АЛЕ ГЭТА НЕ МЯНЯЕ СЭНСУ, ХАХАХА!
ГЭТА БУДЗЕ ЦУДОЎНА. ВОСЬ, ДАЗВОЛЬ МНЕ АДДАЦЬ ТАБЕ ТВАЁ ЗАПРАШЭННЕ!


БРУС!


ДЖОКЕР, ЁН...
УСЁ ДОБРА, БРУС. ВСЁ Ў ПАРАДКУ. МЫ ЎЗЯЛІ ЯГО. ЁН ПАД АРЫШТАМ.
У ЯГО БЫЛА КАПСУЛА ПАД ВАДОЙ, КАБ УЦЯКЧЫ ПА ТРУБАПРОВАДЗЕ, АЛЕ ДЗЯКУЙ ДЗЯКУЙ ДЖЭЙСАНУ, ШТО ЗЛАВІЎ ЯГО НА КРОПКЕ ЎВАХОДА.
АГА, КАЛІ ШТО, КЛІЧЦЕ ЯШЧЭ.
КО-КО-КО, ТОД. НЕ ЗАДЗІРАЙ ДЗЮБУ


А АЛЬФРЭД? З ІМ УСЁ ДОБРА?


ЁН У ПАРАДКУ, БРУС.
ДЖОКЕР ТРЫМАЎ ЯГО НА СКЛАДЗЕ, УЯЎЛЯЕШ? У НЭРОЎЗЕ.


КУБАК ЭРЛ ГРЭЯ, ДЗВЕ СВЕЖЫЯ БЕЛЫЯ ПАЛЬЧАТКІ... І ЁН ЗНОЎ НА НАГАХ, БАЦЬКА. БАЧЫШ?


АЛЬФРЭД?..

ДОБРАЙ РАНІЦЫ, МАЙСТАР БРУС!










НЕ!


БАЦЬКА...

...У НАС ГОСЦІ.
НАМ ТРЭБА ПАГАВАРЫЦЬ. УСІМ НАМ.


ДЖОКЕР... ШТО З ІМ ЗДАРЫЛАСЯ?
ЁН ЗБЕГ, ПАКУЛЬ БЫЛА НЕСПАДЗЯВАНКА.
А ТАКСІН У ВАДЗЕ МЫ НЕЙТРАЛІЗАВАЛІ, АЛЕ Ў ЯГО ДОЎГІ ЭФ...
Я Ў ПАРАДКУ.


МНЕ ТРЭБА ВЯРНУЦЦА ТУДЫ. У МЯНЕ ЁСЦЬ ВЕРСІЯ...
НЕ, БРУС. НАМ ТРЭБА ПАГУТАРЫЦЬ.
НА САМОЙ СПРАВЕ, НАМ ПАТРЭБНЫЯ АДКАЗЫ.


ХТО ЦЯБЕ ЗАПРАШАЎ, ТОД?
Я. НАМ УСІМ ТРЭБА БЫЦЬ ТУТ, ДЭМІЕН.


ТЫ ПАВІНЕН РАСПАВЕСЦІ НАМ, БРУС, АДНОЙЧЫ І НАЗАЎЖДЫ. ДЖОКЕР СКАЗАЎ ПРАЎДУ? ЁН ВЕДАЕ, ХТО МЫ?


НЕ. НЯ ВЕДАЕ.


ТАДЫ ЯК ТЫ ПАТЛУМАЧЫШ ГЭТА?


ЯК ТЫ МОГ НЕ СКАЗАЦЬ НАМ?


БО Я БАЯЎСЯ.
БО Я ЛІЧЫЎ, ШТО ВЫ ДАЗВОЛІЦЕ СВАІМ **ПАЧУЦЦЯМ** УЗЯЦЬ ВЕРХ НАД САБОЙ, І ТЫМ САМЫМ ДАСЬЦЕ ЯМУ МАГЧЫМАСЦЬ ПЕРАМАГЦІ ВАС.


ДАЗВОЛЬ МНЕ ЎДАКЛАДНІЦЬ. КАЛІ Б ТЫ СКАЗАЎ НАМ, ШТО ЁН УЗЯЎ АЛЬФРЭДА (А ЗНАЧЫЦЬ, ЁН **ВЕДАЕ, ХТО МЫ**), ГЭТА НЕ ДАПАМАГЛО Б НАМ ЗРАЗУМЕЦЬ, З ЧЫМ МЫ МАЕМ СПРАВУ?


ТАК... БО ЁН **НЯ ВЕДАЕ**.
ЁН СКРАЎ АЛЬФРЭДА З-ЗА СУВЯЗІ **БРУСА ЎЭЙНА** З КАРПАРАЦЫЯЙ БЭТМЭНА. ДЖОКЕРУ ПАТРЭБНЫ БЫЎ НЕХТА, КАБ ДАПАМАГЦІ ЯМУ ПАДРЫХТАВАЦЬ НЕЙКАЕ СВЯТА.
КАЛІ Б ТЫ БЫЎ ДЖОКЕРАМ, ТЫ Б САМ ВЫБРАЎ АЛЬФРЭДА.


ТОЕ Ж ТЫ КАЗАЎ У ШПІТАЛІ, БРУС, АЛЕ З ТЫХ ЧАСОЎ З'ЯВІЛАСЯ БОЛЬШ ДАДЗЕНЫХ.
НА НАСТУПНЫ ДЗЕНЬ ЁН ВЫЦЯГНУЎ З ТУРМЫ РАЮ - ВОРАГА **ДЗІКА ГРЭЙСАНА**, А НЕ НАЙТВІНГА.


А ПОТЫМ ЁН ПРЫЙШОЎ ЗА МАЁЙ **МАЦІ**!
ПЯРУН ВАС РАЗДЗЯРЫ, ВЫ НЕ РАЗУМЕЕЦЕ, ЯК ЁН **РАЗВАЖАЕ**!


ТАДЫ **ПАТЛУМАЧ**. Я ГЛЯДЗЕЎ ЗАПІС З АДДЗЯЛЕННЯ ПАЛІЦЫІ. ШТО ЁН МЕЎ НА ЎВАЗЕ, КАЛІ СКАЗАЎ, ШТО Ў ЦЯБЕ ЁСЦЬ ЯГО **ВІЗІТОЎКА**?
І ПРА ЯКІ **САКРЭТ** ЁН КАЗАЎ, ЯКІ ТЫ **ХАВАЕШ АД НАС**? НА ШТО ЁН НАМЯКАЕ, БРУС?


ДАВАЙ, **КАЖЫ**.


БАЦЯ...


ГЭТА БЫЛО ВЕЛЬМІ ДАЎНО...

«...КАЛІ Я ТОЛЬКІ СТАЎ БЭТМЭНАМ. РАНЕЙ ЗА ЎСІХ ВАС. ХУТКА ПАСЛЯ МАЁЙ ПЕРШАЙ БОЙКІ З ІМ У ВОДАСХОВІШЧА.

ЁН СПРАБАВАЎ НА ДЫРЫЖАБЛЕ АТРУЦІЦЬ ГОРАД ГАЗАМ».

ТЫ ПРЫЙШОЎ! А Я ТАК БАЯЎСЯ, ШТО ВЫДУМАЎ ЦЯБЕ! ШТО ТЫ ПЛЁН МАЙГО ЎЯЎЛЕННЯ! ТАКАЯ Ж ВЫДУМКА, ЯК І ЗУБНАЯ ФЕЯ!

НЕ, АЛЕ НЕКАЛЬКІ ЗУБОЎ Я Ў ЦЯБЕ ЗАБЯРУ.

«Я СКІНУЎ ЯГО Ў ЗАЛІЎ...»

«...З ДАПАМОГАЙ БЭТЧОЎНА Я АДЦЯГНУЎ БАЛОН З ГАЗАМ У ВОДУ ПЕРАД ТЫМ, ЯК ЁН ПАСПЕЎ АТРУЦІЦЬ КАГО-НЕБУДЗЬ.

ПОТЫМ Я ВЯРНУЎСЯ ЗА ІМ. Я АБШУКВАЎ ЗАЛІЎ ГАДЗІНАМІ, СПРАБУЮЧЫ ЗНАЙСЦІ ХОЦЬ БЫ ЯКІ ЯГО СЛЕД, АЛЕ ТАМ НІЧОГА НЕ БЫЛО.

Я ПАМЯТАЮ, ЯК ПОТЫМ УСЮ ДАРОГУ НАЗАД У ПЯЧОРУ ТАК ЗЛАВАЎСЯ НА СЯБЕ, ШТО НЕ ЗМОГ СХАПІЦЬ ЯГО. МЯНЕ ПРОСТА ТРЭСЛА АД ГНЕВУ.

У МЯНЕ РАНЕЙ НІКОЛІ НЕ БЫЛО ТАКОГА ПАСЛЯ НЕЗАВЕРШАНЫХ СПРАЎ. НІКОЛІ. РАЗУМЕЕЦЕ, Я ТОЛЬКІ ПАЧАЎ РАЗУМЕЦЬ ЯГО. ВОДАСХОВІШЧА ПАКАЗАЛА МНЕ ЯГО. АЛЕ ТАДЫ Я ТОЛЬКІ ПАЧАЎ РАЗУМЕЦЬ...

«ШТО РАЗУМЕЦЬ, БРУС?»

ШТО ЁН АДРОЗНІВАЎСЯ АД АСТАТНІХ, ЦІМ. ШТО ЯМУ ТРЭБА БЫЛО НЕШТА ІНШАЕ, І ЁН ЗРОБІЦЬ УСЁ, КАБ ДАНЕСЦІ СВОЙ ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ».

«ЯКІ ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ?»

«ЁН ХАОС, БРУС, ШТО ЯШЧЭ...»

«ЦІШЭЙ. ПРАЦЯГВАЙ, БРУС».

ПАСЛЯ ТАГО, ЯК Я АБШУКАЎ ЗАЛІЎ І НІЧОГА НЕ ЗНАЙШОЎ, Я ВЯРНУЎ ЧОВЕН У ПЯЧОРУ. Я ВАЙШОЎ ПРАЗ ПРАХОД У ПАЎДНЁВЫХ СКАЛАХ, ЯКІ З ТЫХ ЧАСОЎ ЗАЧЫНЕНЫ.

ПАСЛЯ ЎСПЛЫВАННЯ Я АДРАЗУ ПАЙШОЎ НАВЕРХ У МАЁНТАК І ЗАСНУЎ...

...ЦІ ТОЛЬКІ ПАСПРАБАВАЎ».

«АЛЕ ПРАЗ НЕКАЛЬКІ ГАДЗІН Я ЗНОЎ СПУСЦІЎСЯ Ў ПЯЧОРУ, КАБ ПЕРАГЛЯДЗЕЦЬ СПРАВУ. УСЁ, ПАЧЫНАЮЧЫ СА СЛАЙДА СА СМЕЦЦЕМ, ЯКОЕ НАРАДЗІЛА ЯГО, ЗАКАНЧВАЮЧЫ ТАКСІНАМ З ДЫРЫЖАБЛЯ.
«АЛЕ КАЛІ Я СПУСЦІЎСЯ Ў ПЯЧОРУ, Я ЗНАЙШОЎ НЕШТА...»




«ЗНАЙШОЎ ШТОСЬЦІ, БАЦЬКА?»
«У ВАДЗЕ КАЛЯ ЧОЎНА».


«Я ЗНАЙШОЎ ЯГО **КАРТКУ**».


КАРТКА, ЯКАЯ ВІСІЦЬ ТУТ, ГЭТА **КОПІЯ** ТОЙ, ШТО Я ЗНАЙШОЎ У ВАДЗЕ ТОЙ РАНІЦАЙ.
**АРЫГІНАЛ** Я ДАСЛЕДВАЎ УСІМІ МАГЧЫМЫМІ СПОСАБАМІ. НІ ПРЫЛАДЫ САЧЭННЯ, НІ ТАКСІНА, НІЧОГА. ТОЛЬКІ ЗВЫЧАЙНАЯ ГУЛЬНЯВАЯ КАРТКА.
ПАЧАКАЙ, **ПАЧАКАЙ**. ТЫ КАЖАШ, ШТО ДЖОКЕР, МАГЧЫМА, БЫЎ **У ПЯЧОРЫ**?! ШТО ЁН, МАГЧЫМА, УСЮ РАНІЦУ **ШЛАЙДОХАЎ** ТУТ?
НЕ, ДЗІК. ВІДАЦЬ, ЁН ПРЫЧАПІЎ КАРТКУ ДА ЧОЎНА ПАСЛЯ ТАГО, ЯК ЗВАЛІЎСЯ З ДЫРЫЖАБЛЯ. ХУТЧЭЙ ЗА ЎСЁ, ЁН ВЫКАРЫСТАЎ ВАДАРАСТВАРАЛЬНЫ КЛЕЙ І ТОЙ ЗМЫЎСЯ.
АЛЕ ГЭТА ТОЛЬКІ **ТЭОРЫЯ**, БРУС.
І КАЛІ Б ЁН **БЫЎ** ТУТ...
**НЕ БЫЎ**. Я ТОЛЬКІ ТЛУМАЧУ, ПРА ЯКУЮ ВІЗІТОЎКУ ЁН КАЖА. Я СПРАБУЮ ПАТЛУМАЧЫЦЬ, У ЯКУЮ ГУЛЬНЮ ЁН ГРАЕ.
АЛЕ КАЛІ ЁН **БЫЎ** ТУТ, ТАДЫ ЁН БЫ ВЕДАЎ, ШТО ТЫ **БРУС УЭЙН**.
І КАЛІ Б ЁН ДАВЕДАЎСЯ ПРА ГЭТА, ТАДЫ ЯМУ БЫЛО Б ДАВОЛІ ПРОСТА З ЧАСАМ СУАДНЕСЦІ І ЗДАГАДАЦЦА, ХТО **ЎСЕ** МЫ.
ЯК ТЫ МОГ **ХАВАЦЬ** ГЭТА АД НАС?


ЁН НЕ БЫЎ У ПЯЧОРЫ, БАРБАРА. Я ЎПЭЎНЕНЫ Ў ГЭТЫМ.
ЧАМУ? МЫ ЎВАЖЛІВА СЛУХАЕМ, БРУС.


БО ГЭТА НЕМАГЧЫМА, ДЖЭЙСАН. НАВАТ ТАДЫ, КАЛІ Я ЯШЧЭ НЕ ДАДАЎ АБАРОНУ. ПА-ПЕРШАЕ, У БЭТЧОЎНА БЫЛА БЫ ЛІШНЯЯ ВАГА.
ПА-ДРУГОЕ, КАЛІ Б ЯМУ НЕЯК ДАВЯЛОСЯ АБМІНУЦЬ СЭНСАРЫ, ЯМУ Б УСЁ ЯШЧЭ ПРЫЙШЛОСЯ ПРАЗ ТУНЭЛІ.


ГЭТА ЗНАЧЫЦЬ, ЯМУ Б ПРЫЙШЛОСЯ ЎТРЫМАЦЦА НА ЧОЎНЕ, ПАКУЛЬ ЯНА АМАЛЬ ПЯЦЬ МІЛЬ ПЛЫЛА ПАД ВАДОЙ З ХУТКАСЦЮ ПРЫКЛАДНА ПЯЦЬДЗЕСЯТ МІЛЬ У ГАДЗІНУ.
НІХТО З НАС НЕ МОЖА ЗРАБІЦЬ ГЭТА. НІ Я, НІ ВЫ.
ПА-ТРЭЦЯЕ, КАЛІ Б ЁН ГЭТА ЗРАБІЎ, БЫЛІ Б СЛЯДЫ. ПАКАЗЧЫКІ СЭНСАРАЎ, СІГНАЛІЗАЦЫІ. БЫЛА Б ЗАПІС.


Я КАЖУ ВАМ АБСАЛЮТНА ДАКЛАДНА, НІЯК НЕМАГЧЫМА, КАБ ЁН БЫЎ ТУТ.


НЕ КРЫЎДУЙ, БРУС, АЛЕ ДЖОКЕР ТОЛЬКІ І РОБІЦЬ, ШТО ЎТВАРАЕ НЕМАГЧЫМАЕ!
Я Ж СПЫТАЎ ЦЯБЕ ЛЯ ПАЛАТЫ ГОРДАНА Ў ШПІТАЛІ, ЦІ ЁСЦЬ ШТОСЬЦІ, ЧАГО ТЫ МНЕ НЕ СКАЗАЎ, І ТЫ СКАЗАЎ «НЕ».


БО ГЭТА МЕНАВІТА ТАК, ПЯРУН БЯРЫ. ДЖОКЕР НЕ БЫЎ ТУТ.
ЯК Я СКАЗАЎ, БЛІЖЭЙШАЕ МЕСЦА, КУДЫ ЁН МОГ БЫ ТРАПІЦЬ, ГЭТА ЗЛУЧЭННЕ З ПЯЧОРАЙ КАЛЯ ЎХІЛА МІАГАНІ, ДЗЕ НЫРАЕ ЧОВЕН. ГЭТА Ў МІЛЯХ АДСЮЛЬ.
ГЭТА ЎСЁ АДНО ЗВЯЗАНА З ПЯЧОРАМІ.
ТАК, І ЁСЦЬ СОТНІ ДАМОЎ, ДА ЯКІХ ТАНЭЛІ МОГУЦЬ ВЫВЕСЦІ АДТУЛЬ.
ТОЛЬКІ КАЛІ ЁН НЕ ПРАЙШОЎ ДАЛЕЙ.
НЕ ПРАЙШОЎ.


ЁН НЕ ВЕДАЕ, ХТО МЫ. ЯМУ ЎСЁ РОЎНА, НЯЎЖО ВЫ НЕ РАЗУМЕЕЦЕ? ЁН СПРАБУЕ ПАСВАРЫЦЬ НАС. ЁН ГЭТАГА... ТАГО, ШТО ТУТ ЗАРАЗ АДБЫВАЕЦЦА І ДАМАГАЕЦЦА!
НУ, ВЫГЛЯДАЕ, БЫЦЦАМ ТЫ РОБІШ УСЮ РАБОТУ ЗА ЯГО, БРУС.


ТЫ ПАВІНЕН БЫЎ СКАЗАЦЬ НАМ ПРА КАРТКУ.


КАЛІ ЁН ВЕДАЎ... КАЛІ ЁН ВЕДАЎ, ШТО Я БАРБАРА, ЗНАЧЫЦЬ, КАЛІ ЁН ПРЫЙШОЎ У ДОМ ДА МАЙГО БАЦЬКІ...
БАРБАРА, НЕ.
ЁН ПРЫЙШОЎ ЗА **ТВАІМ БАЦЬКАМ**, А НЕ ЗА ТАБОЙ. ТЫ ГЭТА ВЕДАЕШ.
СЛУХАЙЦЕ, ДА ГЭТУЛЬ ВЫ ЎСЕ БЫЛІ ПАТРЭБНЫ ЯМУ ТОЛЬКІ ЎСКОСНА, КАБ ДАБРАЦЦА ДА МЯНЕ. АЛЕ ЗАРАЗ ЁН КАЖА, ШТО КОЖНЫ З ВАС ПАТРЭБЕН ЯМУ **НЕПАСРЭДНА**.
А КАЛІ ДЖОКЕР ПАЛЮЕ ЗА ТАБОЙ, ЁН БЯРЭ Ў ЦЯБЕ ЎСЁ, ШТО ТЫ ЛЮБІШ, УСЁ, ШТО НЕПАКОІЦЬ ЦЯБЕ, КАБ **ЗНІШЧЫЦЬ ГЭТА**.
КАЖЫЦЕ, ШТО ХАЦІЦЕ, АЛЕ ЎСЁ, ШТО Я СПРАБАВАЎ ЗРАБІЦЬ - ГЭТА **АБАРАНІЦЬ** ВАС АД ГЭТАГА - І **ТОЛЬКІ**.


ТЫ ВУЧЫЎ НАС БЫЦЬ ГЕРОЯМІ, БРУС. ТЫ ВУЧЫЎ НАС ЗМАГАЦЦА СА ЗЛАЧЫННАСЦЮ, А...
НЕ З ІМ.


ТЫ НЕ МОЖАШ АБАРАНЯЦЬ НАС, БАЦЬКА. МЫ ХАЦІМ ЗМАГАЦЦА РАЗАМ З ТАБОЙ. МЫ ШТО, НА ТВАЮ ДУМКУ, ПАВІННЫ СЯДЗЕЦЬ ТУТ, У ПЯЧОРЫ?


ПФФ ЯК БЫЦЦАМ **ТУТ** БЯСПЕЧНА.


ТУТ **БЯСПЕЧНА**.


СКАЖЫ ГЭТА АЛЬФРЭДУ.
ДЖЭЙСАН...


МНЕ ТРЭБА ПРАВЕРЫЦЬ ВЕРСІЮ.
АЛЕ БРУС, МЫ ПАВІННЫ...
НЕ АБМЯРКОЎВАЕЦЦА.
ЯМУ СПАТРЭБІЦЦА ДАПАМОГА, І ТАМУ ЁН ПРАЙГРАЕ ГЭТАЙ НОЧЧУ...



...ЁН РЫХТАВАЎСЯ ЦЭЛЫ ГОД, САЧЫЎ І ПЛАНАВАЎ, АЛЕ КАБ ЗДЗЯЙСНІЦЬ ЗАДУМАНАЕ, ЯМУ ПАТРЭБНА ДАПАМОГА.

КАЛЯ ВОДАСХОВІШЧА ЁН ВЫКАРЫСТОЎВАЎ МАБІЛЬНУЮ СУВЯЗЬ НА СВАІМ ПУЛЬЦЕ, КАБ ЗВЯЗАЦЦА З ЛЮДЗЬМІ, ЯКІЯ ХАВАЛІСЯ НА ДРЭВАХ.



ГЭТЫЯ ЛЮДЗІ, ДАПАМОГА, ЯКОЙ ЁН СКАРЫСТАЎСЯ, – ВОСЬ, ЯК Я ДАБЯРУСЯ ДА ЯГО...

...ДАБЯРУСЯ ДА ЯГО РАНЕЙ, ЧЫМ ЁН ДАБЯРЭЦЦА ДА ІХ. РАНЕЙ, ЧЫМ ЁН ЗРОБІЦЬ ШТОСЬЦІ З АЛЬФРЭДАМ, ШТО Б ЁН НІ ЗВІБРАЎСЯ ЗРАБІЦЬ. ГЭТА АДЗІНЫ СПОСАБ ПАДШТУРХНУЦЬ ЯГО ДА КУЛЬМІНАЦЫІ. САПСАВАЦЬ ЯМУ ЖАРТ.



Я ПРАСАЧЫЎ СОТАВЫ СІГНАЛ, ЯКІ ДЖОКЕР ДАСЛАЎ НА НУМАР МАБІЛЬНАГА ТЭЛЕФОНА З ПРАДАПЛАТАЙ. ПАЛЁНЫ ТЭЛЕФОН. НАБЫТЫ ЗА НАЯЎНЫЯ Ў КРАМЕ «ГОТЭМ ЭЛЕКТРОНІКС» ДЗЕВЯЦЬ ДЗЁН РАНЕЙ.

ТЭЛЕФОН НЕ АДСАЧЫЦЬ, АЛЕ НА САПІСЫ СА СВЕТЛАФОРА НА СКРЫЖАВАННІ БАЧНА ЧАЛАВЕКА, ЯКІ ВЫХОДЗІЦЬ З КРАМЫ ПАВОДЛЕ ЧАСУ КУПЛІ.



ЧАЛАВЕКА, ЯКОГА КАМПУТАР ВЫЗНАЧЫЎ ЯК «ДЗІЛАН МАКДАЙР». СОРАК ПЯЦЬ ГАДОЎ. УДАВЕЦ. ЧАЦЬВЁРА ДЗЯЦЕЙ. А ПРАЖЫВАЕ МАКДАЙР...

...ПРАМА ТУТ.



ПАП?...
НЕ БОЙЦЕСЯ. ПРОСТА МНЕ І ВАШАМУ БАЦЬКУ ТРЭБА ТРОШКІ ПАГАВАРЫЦЬ.




ТАК ЖА?




М-МНЕ ПРЫЙШЛОСЯ. ЁН СКАЗАЎ, ШТО ЗАБ'Е МАЮ СЯМ'Ю. ЁН С-САЧЫЎ ЗА НАМІ, БЭТМЭН. КАЛІ ЛАСКА, САЧЫЎ ЗА НАМІ ЎВЕСЬ ТЫДЗЕНЬ.




ЗА КІМ ЯШЧЭ?




ЗА ЎСІМІ РОБОТАМІ З...

«ЗА ЎСІМІ АХОЎНІКАМІ **АРКХЭМА**».

ДЗІЛАН МАКДАЙР. БАЯВЫ АФІЦЭР ЛЯКАРНІ АРКХЭМА З ДЗЕВЯЦІГАДОВЫМ СТАЖАМ. ЛІЧУ, ЁН І ПАРА ІНШЫХ АФІЦЭРАЎ ЗАМОВІЛІСЯ З ДЖОКЕРАМ З-ЗА ПРАГНАСЦІ І СТРАХУ.

АЛЕ ГІСТОРЫЯ, ЯКУЮ ЁН РАСКАЗАЎ МНЕ ЗА СВАІМ АБЕДЗЕННЫМ СТАЛОМ... ГЭТА **ГОРШ** ТАГО, ЧАГО Я ЧАКАЎ.

ГІСТОРЫЮ ПРА ТОЕ, ЯК ЗВАР'ЯЦЕЛЫ ТРЫМАЎ ЛЯКАРНЮ Ў ЗАКЛАДНІКАХ. ПРА ЗАБОЙЦУ, ЯКІ КОЖНУЮ НОЧ АДПУСКАЎ ДАДОМУ АХОЎНІКАЎ, У ЯКІХ ЁСЦЬ СЕМ'І, ПРЫМУШАЎ ІХ РАБІЦЬ ВЫГЛЯД, БЫЦЦАМ УСЁ, **ЯК ЗВЫЧАЙНА**.

РАБІЦЬ ВЫГЛЯД, БЫЦЦАМ ЛЯКАРНЯ ЗАНЯТА ЗВЫЧАЙНЫМІ СПРАВАМІ, ТАДЫ ЯК УВЕСЬ ГЭТЫ ЧАС КОЖНЫ ДЗЕНЬ УНУТРЫ ЎСЁ ЗМЯНЯЛАСЯ...

...У **ШТО** ДАКЛАДНА ЗМЯНЯЛАСЯ, МАКДАЙР НЕ ЎПЭЎНЕНЫ.

НІХТО НЕ ЎПЭЎНЕНЫ, ЁН СКАЗАЎ. АЛЕ ЁН БАЧЫЎ МІЛЬГАЦЕННЕ Ў КАЛІДОРЫ.

БАЧЫЎ, ЯК ПАДЫХОДЗІЦЬ ТОК, ГЕНЕРАТАРЫ І КАБЕЛЬ, БУДАЎНІЧЫ РАСТВОР, ШПАКЛЯВАННЕ І ФАРБЫ.

ЁН ТАКСАМА ЧУЎ КРЫКІ, БАЧЫЎ, ЯК ПА КАЛІДОРЫ ВЯЗУЦЬ АКРЫВАЎЛЕНЫЯ РУЧНІКІ НА РУЧНОЙ КАЛЯСЦЫ. ЧУЎ, ЯК ЦЕЛА СКІДВАЮЦЬ У ТРУБУ СМЕЦЦЕСПАЛЬВАЦЕЛЯ.

СПАЧАТКУ ЗВЯНЕЛА ЖАЛЕЗА, А ПОТЫМ – ШМЯК. ДЫМ, СМУРОД І СМЕХ ЗВЕРХУ, НЯСПЫННЫ **СМЕХ**...

«У ШТО Б ЁН ЯЕ НЕ ПЕРАТВАРАЎ, – СКАЗАЎ МНЕ МАКДАЙР, – ЁН СКАЗАЎ, ШТО ГЭТА **ДЛЯ ЦЯБЕ**, БЭТМЭН. ЁН СКАЗАЎ, ШТО РОБІЦЬ З ЯЕ ТВОЙ ЗАМАК, МЕСЦА, ЯКОЕ СТАНЕ ТВАІМ ДОМАМ».

А ЗАРАЗ, БРУС, ЯК ТОЛЬКІ ВОЙДЗЕШ, СКАЖЫ САБЕ, ШТО ЁН УСЯГО ТОЛЬКІ ЧАЛАВЕК. ЯК ТЫ САМ.

СКАЖЫ САБЕ, ШТО ЯГО ЦЕЛА МОЖНА ПАРВАЦЬ, А КОСТКІ ЗЛАМАЦЬ.

ШТО ЯМУ ТРЭБА ДЫХАЦЬ, СПАЦЬ І ЕСЦІ.

ДАКАЖЫ ГЭТА САМОМУ САБЕ.

УГЛЕДЗЬСЯ Ў ЯГО, У ГЭТЫЯ ЧОРТАВЫ ВОЧЫ. ГЛЯДЗІ Ў ІХ, ПАКУЛЬ ЁН НЕ АДПУСЦІЦЬ.

ПАКУЛЬ ТЫ НЕ ЎБАЧЫШ, ШТО ЯНЫ ПРАЦУЮЦЬ, ЯК ЧАЛАВЕЧЫЯ. ПАКУЛЬ ТЫ НЕ ЎБАЧЫШ, ШТО ЗРЭНКІ ЗМЯНЯЮЦЦА.

ГЭТА ЗДАРЫЦЦА НЕЧАКАНА, ДРОБНЕНЬКАЕ ЗМЯНЕННЕ, АЛЕ ЗДАРЫЦЦА. УЗІРНІСЯ І ЎБАЧЫШ. ДРАБНЮТКАЕ ВАГАННЕ ЗРЭНКАЎ, АЛЕ ЎСЁ Ж. І ТЫ СКАЖАШ САБЕ, ДОБРА? НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА ЎСЁ ГЭТА, ЁН МЕНАВІТА ТОЙ, КІМ ТЫ ЯГО ЛІЧЫШ.

І НЕ ВАЖНА, ШТО ЗРЭНКІ ПАШЫРАЮЦЦА. ПАШЫРАЮЦЦА, ТАМУ ШТО ТЫ ГЛЯДЗЕЎ У ІХ ДАСТАТКОВА ДОЎГА. НЕ ВАЖНА, ШТО ГЭТЫЯ ЧОРНЫЯ КРОПКІ ПАШЫРАЮЦЦА З-ЗА...

DC COMICS прадстаўляюць БЭТМЭНА ў

Смерць Сям'і

# ЗАРАЗ БУДЗЕ САМЫ СМАК

СКОТ СНАЙДЭР сцэнар
ГРЭГ КАПУЛА малюнак
ДЖОНАТАН ГЛАПІНЬЯН чарніла
ФРАНЦЫСКА ПЛАЦЭНСІЯ колер
РЫЧАРД СТАРКІНГС і ДЖЫМІ БЕТАНКОР З КОМІКРАФТА шрыфты
КЭЦІ КУБЕРТ радактар
МАЙК МАРТС рэдактар
ГРЭГ КАПУЛА і ФСО ПЛАЦЭНСІЯ вокладкі
БЭТМЭН створаны Бобам Кейнам

далей: картачны дом!

# ЧЫРВОНАЕ СВЯТЛО, ЗЯЛЁНАЕ СВЯТЛО

У ГАЛОЎНЫХ РОЛЯХ
ДЖОКЕР
І РЫДЛЕР

СКОТ СНАЙДЭР І ДЖЭЙМС ЦІНІЁН IV – СЦЭНАР
ДЖОК – МАСТАК
ДЭЙВ БАРОН – КОЛЕР
ТЭЙЛАР ЭСПАЗІТА – ШРЫФТЫ
КЭЦІ КУБЕРТ – ПАМОШНІК РЭДАКТАРА
МАЙК МАРТС – РЭДАКТАР

ПАГЛЯДЗІМ, ЦІ РАЗГАДАЕШ ТЫ ГЭТА... СЛОВА З ВАСЬМІ ЛІТАР, ЯКОЕ АЗНАЧАЕ **СОРАМ ЗА САМОГА СЯБЕ**?

ЛЕЧЕБНИЦА АРКХЭМ

НЯ ВЕДАЕШ? О, ЧАРЛЬЗ.. Я ЛІЧЫЎ, ТЫ ЗМОЖАШ. НОЧ ЗА НОЧЧУ Я ПАДАВАЎ ТАБЕ ГЭТУЮ МАЛЕНЬКУЮ МАГЧЫМАСЦЬ САМАЎСВЯДОМІЦЦА, АЛЕ ТЫ **ЗАЎСЁДЫ РАСЧАРОЎВАЕШ МЯНЕ**!

УПЭЎНЕНЫ, ТЫ ВЕДАЕШ. САМААЦЭНКА. АБРАЗА. КАЛІ Ў ПАЧАТКОВАЙ ШКОЛЕ ТЫ ПРАЛІЎ МАЛАКО НА ДЗЯЎЧЫНКУ, АБ ЯКОЙ **МАРЫЎ** ПА НАЧАХ.

НЕ КАЖУЧЫ ЎЖО АБ ТЫХ НАЧАХ, ЯКІЯ ТЫ ЗАЧЫНЕНЫ ТУТ СА **МНОЙ**.

ЗДАЕШСЯ? ГЭТА **НЕВАЖЭННЕ**. Я ДУМАЎ, ГЭТА ПАДЫЙДЗЕ.

ТЫ Ж РАЗУМЕЕШ, ШТО Я АДМОВІЎСЯ АД ГАЗЕТНЫХ СКРЫЖАВАНАК, ТАК, ЧАРЛЬЗ? ГЭТА НУДОЦЦЕ **СМЯРОТНАЕ**. Я РАБЛЮ ГЭТА ТОЛЬКІ ДЛЯ ЦЯБЕ.

І НАВОШТА? ТЫ ХОЦЬ БЫ **ЧУЕШ** МЯНЕ?

ХНЫК.

...СКАЗАЎ, ШТО ВЫРАЖЫЦЬ МАЁЙ ДАЧЦЭ ГОРЛА, МІСТАР РЫДЛЕР... СКАЗАЎ, ШТО ПРЫМУСІЦЬ МЯНЕ **З'ЕСЦІ** ЯГО...

ХТО СКАЗАЎ?

О НЕ, ЧАК! ХАДЗІ СЮДЫ! ПАТРЭБНА ДАПАМОГА.

ХЛОП

О БОГ МОЙ, МЯНЕ ЗАРАЗ РАСПЛЮШЧЫЦЬ!

ПРАЦЯГВАЙЦЕ ІСЦІ, ХЛОПЦЫ! УЖО НЕДАЛЁК!

ВОСЬ ТЕ НА... ЯК ЦІКАВА.

ТРЫМАЙСЯ... ТРЫМАЙСЯ...

У МЯНЕ РУКІ СКЛІЗЯЦЬ!

О БОЖА, МАЕ НОГІ!

СЦІЎ!

НЕ, НЕ, НЕ, НЕ, НЕ!


ГЭТА ПАВІННА БЫЛО БЫЦЬ НЕШТА **АСАБЛІВАЕ**, НЯЎЖО ВЫ НЕ РАЗУМЕЕЦЕ?!
ЯК Я БУДУ ПАКАЗВАЦЬ ТАКУЮ ПРЫГАЖОСЦЬ СЁННЯ НОЧЧУ, КАЛІ ВЫ ГУБЛЯЕЦЕ ЯЕ НА КОЖНЫ КРОК?!


ГЭТЫ КОНЬ **САПСАВАНЫ**.
БЛАМ


ПРЫНЯСІЦЕ З ЗАЛЫ ЯШЧЭ АДНАГО. І НА ГЭТЫ РАЗ ЗРАБІЦЕ ЎСЁ **ПРАВІЛЬНА**. НЕ БЫВАЕ ДОБРЫХ ВЕЧАРЫН БЕЗ **КАНЯШАК**, **САПРАААAЎДЫ**?
АЛЕ... ЯК НАКОНТ СЦІВА?


БЛАМ
СЦІЎ ТАКСАМА САПСАВАЎСЯ. **ІДЗІЦЕ** ЎЖО!

О! ЭЙ, ЭДДЗІ! Я ЦЯБЕ НЕ ЗАЎВАЖЫЎ. РАДЫ, ШТО ТЫ ТУТ!

КАРЦАР НЕСУМНЕННА МАЕ СВАЕ ПЕРАВАГІ.

**ХАХАХА!** МОЙ **ЭДДЗІ!** ЧАМУ ТЫ НЕ ВЫХОДЗІШ З КЛЕТКІ? ТАК ШМАТ УСЯ-ГО ТРЭБА **ЗРАБІЦЬ!** ТАК ШМАТ **СКАЗАЦЬ!**

ДЖО

Я РЫХТУЮ ШОЎ. КАНЕШНЕ, ТЫ НАПЭЎНА ГЭТА ЎЖО ЗРАЗУМЕЎ. ЗАЎСЁДЫ НА ДЗЕСЯЦЬ КРОКАЎ НАПЕРАДЗЕ, ЦІ НЕ ТАК, ЭДДЗІ?

ХММ... ТАК, КА-НЕШНЕ.

ІДЗІ ТЫ. **І Ў ЧЫМ** ПРЫКОЛ?

ТЫ СЯДЗЕЎ ПАД ВАРТАЙ ЦЭ-ЛУЮ ВЕЧНАСЦЬ! ДЗЕЛЯ БОГА, ТЫ Ж ЗАГАДАЧНІК! РЫДЛЕР! НЕ ПРЫКІДВАЙСЯ, ШТО НЕ ВЫДУМАЎ ТУЗІН СПОСАБАЎ ВЫЙСЦІ АДСЮЛЬ У ПЕРШУЮ Ж НОЧ. Я ВЕДАЮ, ТЫ ЗДОЛЬНЫ НА БОЛЬШАЕ!

КЛЮЧ-КАРТКА АД ГЭТЫХ ДЗВЯРЭЙ У ТОГА ЖАЛАСНА-ГА АХОЎНІКА, ЯКО-ГА ТЫ ТОЛЬКІ ШТО ЗАСТРЭЛІЎ.

ШТО Б ТЫ ТАМ НІ ПЛАНАВАЎ, ТАБЕ БЕЗ СУМНЕВУ ПАТРЭБНЫ МОЙ **УДЗЕЛ**, ТАМУ АД-ЧЫНЯЙ ДЗВЕРЫ.

Я НЕ Ў НАСТРОІ **ГУЛЯЦЬ** У ТВАЕ ГУЛЬНІ, ДЖОКЕР

НЕ **ХЛУСІ** МНЕ, ЭДДЗІ. ТЫ **ЗАЎСЁЁЁДЫ** Ў НАСТРОІ ГУ-ЛЯЦЬ.


ВОСЬ, Я ЗРАБЛЮ ТАК, КАБ БЫЛО ЦІКАВА! СУМЕСЬ СТАРАЯ І ТРОШКІ РАВЕДЗЕНАЯ, АЛЕ ЎСЁ Ж ДАВОЛІ ЭФЕКТЫЎНА, КАЛІ ДАЦЬ ПАРУ ХВІЛІН.


Я Ж ВЕДАЮ, ЯК ТЫ ЛЮЮЮБІШ СМЯРОТНЫЯ ПАСТКІ!


КХЕ... ДЖОКЕР, СПЫНІ ГЭТА.
ПСССССТ
ХАХАХАХА! НЕ.
У ГЭТЫМ САМЫ СМАК. ТЫ ПАВІНЕН ГЭТЫ СПЫНІЦЬ!
Я Ж НЕ МАГУ ЎЗЯЦЬ ЦЯБЕ НА ВЕЧАРЫНУ, КАЛІ ТЫ НЕ Ў ФОРМЕ, ТАК ЖА? А ТЫ САПРАЎДЫ БЫЎ НЕ Ў ЛЕПШАЙ ФОРМЕ Ў АПОШНІ ЧАС!


ТЫ ЗАЎСЁДЫ ПАДАВАЎ ТАКІЯ НАДЗЕІ, ЭДДЗІ. Я ЛЮБІЎ ГЭТА Ў ЦЯБЕ. З САМАГА ПАЧАТКУ.


НІХТО НЕ МОЖА ПАСАДЗІЦЬ ЯГО НА ГОЦАЛКІ ТАК, ЯК ТЫ. УСЕ АСТАТНІЯ І НА ДЗЕЛЬ НЕ ТАК РАЗУМНЫ, ЯК НАШ СЛАВУТЫ БЭТ-КАРОЛЬ!
КАЛІ Б ТЫ НЕ ПАКІДАЎ СВАЕ ПАДКАЗАЧКІ, ЁН БЫ НІКОЛІ НЕ СХАПІЎ ЦЯБЕ! АЛЕ Ж У ГЭТЫМ УВЕСЬ СЭНС, ЦІ НЕ ТАК? ТЫ ГУЛЯЕШ ПА-БУЙНОМУ... ЗУСІМ ЯК ЯЯЯ!

ТЫ ТРЫМАЕШ ЯГО РОЗУМ... САМАЯ СТРАШНАЯ ЯГО **ЗБРОЯ**... У ДОБРАЙ **ФОРМЕ**. І ТЫ РОБІШ ГЭТА ЛЕПШ УСІХ З НАС. ТЫ ЗАДАЕШ ПЫТАННІ, НА ЯКІЯ **ЁН НЕ МОЖА АДКАЗАЦЬ**.

**ТЫК ЯКОГА ЛЯСУНА** ТЫ ТУТ РОБІШ , ЭДДЗІ? ТАБЕ Ж ЁСЦЬ , ЧЫМ ЗАНЯЦЦА.

ТАБЕ ПРЫЙШОЎ ЧАС ЗНОЎ **СЛУЖЫЦЬ КАРАЛЮ!** ТАБЕ ЧАС ЗНОЎ ЗАВАСТРЫЦЬ ЯГО МЕЧ.

ТЫ **ЗБРОЙНІК** У ГЭТЫМ ЗЛОБНЫМ ГОРАДЗЕ, ЭДДЗІ. ТЫ РОБІШ БЭТМЭНА РАЗУМНЕЙ. ЛЕПШ. НЕБЯСПЕНЫМ.

НЕ МАГУ ГЛЯДЗЕЦЬ, ЯК ТЫ СІДЗІШ ТУТ І ЗАГІНАЕШСЯ. УЖ ЛЕПШ **СМЕРЦЬ**. І МЯРКУЮЧЫ ПА ЧАСЕ... ТЫ АМАЛЬ МЁРТВЫ!

ДИНЬ

БЫЛО СОРАК ШЭСЦЬ ВАРЫЯНТАЎ ВЫЙСЦЯ З ГЭТАЙ КЛЕТКІ, ДЖОКЕР.

ТОЛЬКІ ЧАТЫРЫ ПАДЫХОДЗІЛІ ПА ТВАІМ ЧАСОВЫМ АБМЕЖАВАННЯМ. ПРАСЦЕЙ ЗА ЎСЁ БЫЛО Б ВЫБІЦЬ ШКЛО, СТУКНУЎШЫ Ў СЛАБЕЙШАЕ МЕСЦА. Я ВЫБРАЎ ТРЭЦІ СПОСАБ.

ПЕРАМАНЦІРАВАЦЬ ДЗВЕРЫ ПРАЗ ДЗІРУ Ў СЦЯНЕ, ЯКУЮ Я ЗРАБІЎ ШЭСЦЬ ТЫДНЯЎ НАЗАД. Я Б ВЫЙШАЎ РАНЕЙ, АЛЕ ЯНЫ МЯНЯЛІ ЧАС СМЕНЫ АХОВЫ. Я ЧАКАЎ, ПАКУЛЬ ПАЎТАРЫЦЦА ГРАФІК.

КХЕ. ТЫ Ж ВЕДАЕШ, ШТО ТЫ ВЫБЛЯДАК?

Я НАШМАТ БОЛЬШ ЗА ГЭТА, ЭДДЗІ.

ХАХАХАХАХА

АЛЕ І ТЫ ГЭТАКІ Ж! У ГЭТЫМ УВЕСЬ **СЭНС**, РАЗУМЕЕШ? АЛЕ ПАСПЯШАЙСЯ... МЫ ПАВІННЫ ЗАКОНЧЫЦЬ ПАДРЫХТОЎКУ.

АДГАДАЙ, ШТО Я **НАЗАПАСІЎ**? Я ВЕДАЮ, ТАБЕ **ЦІКАВА**.

ГЭТА **ДОКТАРСКІ ДЫПЛОМ** ДЖЭРЭМІІ АРКХЭМА.

НУ, МНЕ Ж ТРЭБА НА **ЧЫМСЬЦІ** МАЛЯВАЦЬ! ЁН ВЫГЛЯДАЎ ТАКІМ САМОТНЫМ, ПЫЛІЎСЯ Ў РАМЦЫ. Я ДУМАЎ, ШТО ЗМАГУ ВЫКАРЫСТАЦЬ ЯГО ЛЕПШ, ЧЫМ ЁН **КАЛІ-НІБУДЗЬ**.

УПЭЎНЕНЫ, ЁН АЦЭНІЦЬ ГЭТА... ДЗЕ Б ЁН НІ БЫЎ. ЛІЧУ, У АДНОМ З **ТУАЛЕТАЎ**... НЕ ВАЖНА. ГЛЯДЗІ...

ДУМАЮ, Я ЗРАЗУМЕЮ, ШТО ТЫ ЗАДУМАЎ, ДЖОКЕР. Я ВЕДАЮ ЦЯБЕ ДАСТАТКОВА ДОЎ...

...

Я НЕ... Я НЕ РАЗУМЕЮ.

ТАБЕ І НЕ ТРЭБА РАЗУМЕЦЬ, МОЙ ХЛОПЧЫК! ГЭТА ТОЛЬКІ ДЛЯ **ЯГО І МЯНЕ**.

АЛЕ ПАВЕР МНЕ, ТЫ ЗАХОЧАШ **ПРАЕХАЦЬ**. НАМ УСІМ **БУДЗЕ, ШТО ЎЗГАДАЦЬ**!

ПРАЦЯГ БУДЗЕ...